ПАМЯЦЬ

# Адышоўшая легенда

*Апошнім часам Анатоль Васільевіч Багатыроў усё радзей і радзей з'яўляўся на публіцы. Гады бралі сваё, прымусіўшы яго ўрэшце зрабіцца палоннікам свайго жытла. Ён ужо даўно не пакідаў межаў вялікай кватэры ў самым цэнтры Мінска, дзе пражыў некалькі апошніх дзесяцігоддзяў. Але яго не забывалі вучні, малодшыя калегі, сваякі, якія ўвесь час клапаціліся, імкнуліся падтрымаць, узняць настрой, падзяліцца навінамі. Усяго месяц таму яны дапамаглі яму адзначыць 90-гадовы юбілей...*

Сёння кожны, хто хаця б крышачку ведаў яго, можа з упэўненасцю сказаць: "Я быў знаёмы з легендай". І сапраўды, Анатоль Васільевіч — менавіта легендарная асоба. Чаго варты адзін толькі просты пералік прозвішчаў яго шматлікіх вучняў, якім ён перадаў у спадчыну кампазітарскае рамяство і якія самі ўжо даўно зрабіліся знакавымі постацямі ў беларускай музыцы: Генрых Вагнер, Яўген Глебаў, Юрый Семяняка, Сяргей Картэс, Дзмітрый Смольскі, Ігар Лучанок, Андрэй Мдзівані, Эдуард Зарыцкі, Уладзімір Буднік, Леанід Захлеўны, Уладзімір Солтан... Мала хто ведае, што падчас вайны, працуючы прарэктарам аб'яднанай кансерваторыі ў Свярдлоўску, куды былі эвакуіраваны некалькі кансерваторый былога Саюза, Анатоль Васільевіч паспеў навучыць асновам кампазіцыі і будучых мэтраў савецкай песні Людмілу Лядаву ды Эдуарда Калманоўскага. На той час зусім яшчэ малады чалавек, ён тым не менш быў ужо ўганараваны званнем заслужанага артыста БССР і нават атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. Такім раннім афіцыйным прызнаннем Анатоль Багатыроў быў абавязаны сваёй оперы "У пушчах Палесся", якую напісаў у 26-гадовым узросце! Беларускі оперны тэатр не толькі паставіў гэты манументальны твор на сваёй сцэне, але і звазіў у Маскву, дзе падчас першай дэкады беларускага мастацтва яго выканалі са сцэны Вялікага тэатра. Было гэта ў далёкім 1940 годзе. Усё жыццё Анатоль Васільевіч успамінаў гэту хвалюючую падзею, на якой прысутнічаў Сталін. Дзесяткі разоў у шматлікіх падрабязнасцях кампазітар расказваў, як пасля прэм'еры правадыр наладзіў невялікі прыём, дзе дэталёва разбіраў спевы і ігру акцёраў, а таксама музыку. Малады аўтар оперы быў удастоены высокіх кампліментаў.

Усё даваеннае жыццё Анатоля Васільевіча Багатырова было імклівым кідком да вялікіх творчых перамог, якіх ён дасягнуў цаной вялізнай і няспыннай працы. Ён спяшаўся набываць прафесію, нібы прадчуваючы свой незвычайны лёс і тую выключную ролю, якую яму давялося адыграць у гісторыі беларускай музыкі. Без перабольшання, 60 з лішнім гадоў у гэтым паважным летапісе прайшлі пад знакам яго імя.

Шырокая эрудыцыя і глыбінныя музычныя веды Анатоля Багатырова захаплялі. Ён быў бліскучым піяністам, што ў спалучэнні з грунтоўнай тэарэтычнай падрыхтоўкай дазваляла яму без усялякіх цяжкасцяў (з ліста, як кажуць музыканты) іграць найскладанейшыя оперныя і сімфанічныя партытуры ды клавіры. Пры гэтым ён яшчэ ўмудраўся і дакладна напяваць вакальныя партыі, калі тыя былі ў нотным тэксце. Пад рукамі Майстра ажывала музыка ўсіх эпох і музычных стыляў, ён ведаў яе бліскуча — і як практык, і як тэарэтык.

Адным з яго ўлюбёных кампазітараў быў Рыхард Вагнер. Аднойчы — гэта было ў першыя пасляваенныя гады — Анатоль Васільевіч музіцыраваў за сваім хатнім раялем, іграючы сцэны з вагнераўскага "Лаэнгрына". А жыў ён тады ў двухпавярховым будынку на Берсана, насупраць Чырвонага касцёла. Гукі музыкі праз расчыненае акно даносіліся на вуліцу. Захоплены музыкай, ён не мог бачыць неверагоднай сцэны, якая разыгралася пад яго вокнамі. Аказваецца, у гэты момант міма праходзіла калона ваеннапалонных немцаў, якія, пачуўшы музыку свайго знакамітага суайчынніка, укленчылі канвой спыніцца — і з замілаваннем слухалі чароўныя гукі, якія лашчылі ім слых, відаць, нагадваючы аб далёкай радзіме.

Ну чым не сюжэт для якойсьці гістарычнай меладрамы?..

Любімыя партытуры ён мог іграць гадзінамі. Але з вялікай цікавасцю адносіўся і да опусаў сваіх студэнтаў. Ноты іх новых твораў, якія ставіліся на пюпітр раяля падчас класных заняткаў, прафесар Багатыроў агучваў, як кажуць, "на раз" — часцяком значна лепей за саміх аўтараў. І так было заўсёды.

Анатоль Багатыроў валодаў фенаменальнай памяццю. Колькі цікавых сустрэч і падзей было на яго вяку! Ён мог даць вычарпальны адказ на любое пытанне, якое тычылася даваеннай і пасляваеннай гісторыі музычнага жыцця Мінска, узгадаць самае забытае прозвішча, самы незвычайны факт. А колькі знакамітых асоб музычнага свету ён ведаў блізка! Шастаковіча, Свірыдава, Кабалеўскага, Хачатурана, Хрэннікава...

Усё жыццё ён спалучаў творчую і грамадскую дзейнасць. Яшчэ ў даваенны час узначаліў Саюз беларускіх кампазітараў, потым, з канца 40-х, на працягу доўгіх гадоў быў рэктарам нашай кансерваторыі, неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Але цяжар грамадскіх спраў ніколі не засланяў у ім пяшчотную душу мастака. Было нешта глыбока кранальнае ў самім яго каржакаватым абліччы, у бездапаможным прыжмуры хворых блізарукіх вачэй. Ён наіўна верыў, што пасля заканчэння зямнога жыцця абавязкова сустрэнецца на нябёсах са сваёй памерлай жонкай Натальляй Сяргееўнай, якую горача кахаў і заставаўся ёй верны да апошніх дзён. Можа, і сапраўды цяпер ужо сустрэўся?..

Дзяцей у Анатоля Васільевіча не было. Але яго спадчына, я ўпэўнена, захаваецца ў надзейных руках. У роднай пляменніцы кампазітара, вядомага беларускага музыказнаўца Алены Саламахі цяпер будзе шмат працы па ўпарадкаванні яго архіваў. Ды ўсё ж, як мне здаецца, клопат пра гэта не павінен стаць абавязкам адных толькі сваякоў. Надта ўжо асоба Багатырова не шараговая! І менавіта дзяржава павінна паклапаціцца пра тое, каб на Беларусі быў, нарэшце, выдадзены поўны збор твораў выдатнага Майстра. Сапраўды, ён гэтага заслужыў.

...А пахавалі Анатоля Васільевіча побач з Уладзімірам Мулявіным, Васілём Быкавым і Святланай Данілюк. Усе яны — нават падумаць страшна! — пайшлі з жыцця сёлета...

Страты для беларускай культуры разбуральныя і непапраўныя.

**Вольга БРЫЛОН.**

*Анатоль Васільевіч Багатыроў з адной са сваіх вучаніц.*

СПОРТ

## Першае паражэнне Анатоля Байдачнага

На чэмпіянаце Беларусі па футболе прайшлі гульні 21-га тура сярод каманд вышэйшай лігі. Лідэр першынства футбольны клуб "Гомель" у прынцыповым матчы дома перамог сталічнае "Дынама" з лікам 3:0. Гэта першае паражэнне мінчан ва ўнутраным першынстве пад кіраўніцтвам Анатоля Байдачнага.

Буйных перамог у гэтым туры таксама дасягнулі мінскае "Тарпеда-СКА", якое забіла "Славіі" чатыры "сухіх" мяча і барысаўскі БАТЭ, які выйграў у салігорскага "Шахцёра" з лікам 4:1.

"Дарыда" з Мінскага раёна прайграла наваполацкаму "Нафтану" 0:1, а мінская "Зорка-ВА-БДУ" з такім жа вынікам саступіла бабруйскай "Белшыне". Жодзінскае "Тарпеда" выйграла ў гасцях у "Маладзечна-2000" — 2:0. Нулявая нічыя зафіксавана ў супрацьстаянні магілёўскага "Дняпра-Трансмаша" і гродзенскага "Нёмана".

Пасля 21-га тура першае месца па-ранейшаму ўтрымлівае "Гомель". У гэтай каманды 52 ачкі. На другім месцы — сталічнае "Тарпеда-МАЗ". У сталічных футбалістаў 48 набраных ачкоў. На трэцяй прыступцы сталічнае "Дынама" з 45 ачкамі.

У спісе бамбардзіраў лідыруе гамяльчанін Генадзь Блізнюк, які забіў 12 мячоў. Сустрэчы наступнага тура адбудуцца 28 верасня.

## Беларусь — у сусветнай групе!

У нямецкім горадзе Зундэрн прайшоў матч стадыі плэй-офф тэніснага Кубка Дэвіса. У ім зборная Беларусі сустракалася са зборнай Германіі. Пераможца гэтай пары атрымліваў права заявіцца ў будучым годзе ў сусветную групу.

Першай ракеткай у складзе зборнай Германіі быў Райнэр Шутлер, які займае восьмую пазіцыю ў рэйтынгу "Чэмпіёнскай гонкі-2003". Першай ракеткай у беларусаў быў Максім Мірны, які ў адзіночным рэйтынгу займае 23-е месца, а ў парным знаходзіцца на першым.

У першы дзень Максім Мірны выйграў у Томаса Берэнда — 5:7, 2:6, 7:6, 6:2 і 6:4. У другой сустрэчы першага дня Уладзімір Ваўчкоў прайграў Райнэру Шутлеру — 3:6, 6:3, 7:6, 4:6, 4:6.

Пасля першага дня лік сустрэчы Беларусь—Германія быў 1:1. У парнай сустрэчы Максім Мірны і Уладзімір Ваўчкоў перамаглі дуэт Кіфер—Шутлер — 6:3, 3:6, 7:5 і 7:5. Такім чынам, для агульнай перамогі ў апошні дзень беларусам было неабходна перамагаць у адной з дзвюх застаўшыхся сустрэч. І нашы суайчыннікі выканалі гэтую задачу. Максім Мірны выйграў у Шутлера — 6:3, 7:5 і 6:3. У заключнай сустрэчы самы малады тэнісіст беларускай каманды Аляксандр Скрыпко прайграў Ларсу Бюргсмюлеру 6:2 і 6:0.

Іакім чынам, зборная Беларусі пасля перамогі над немцамі з агульным лікам 3:2 заваявала права выступіць у будучым годзе ў сусветнай групе.

## Хакейнае «Дынама» прайграе «Юнацтву»

Працягваецца 12-ты чэмпіянат Беларусі па хакеі з шайбай. Чарговыя сустрэчы прынеслі наступныя вынікі: мінскі "Юніёр" прайграў на сваёй пляцоўцы хакейнаму клубу "Брэст" — 0:4, а хакейны клуб "Віцебск" выйграў у наваполацкага "Хіміка" — 3:1. Мінскае "Дынама", якое прымала землякоў з "Юнацтва", прайграла камандзе Міхаіла Захарава з лікам 3:5.

Наступныя сустрэчы чэмпіянату Беларусі пройдуць 24 верасня.

На чэмпіянаце Усходнееўрапейскай хакейнай лігі мінскі "Керамін" двойчы выйграў у ліепайскага "Металургса" з аднолькавым лікам 5:3, прычым у паўторнай сустрэчы ўсе свае шайбы беларусы закінулі ў апошнія 20 хвілін.

Яшчэ адна латвійская каманда — "Рыга-2000" — падзяліла ачкі з чэмпіёнам Беларусі — "Гомелем". У першы дзень беларусы перамаглі 3:2, а на наступны дзень яны саступілі 1:2.

Гродзенскі "Нёман" таксама выйграў у першай сустрэчы ў кіеўскага "Сокала" з лікам 3:2, а на наступны дзень украінцы ўзялі рэванш — 5:3 на іх карысць.

У Магілёве мясцовае "Хімвалакно" выйграла ў падмаскоўнага "Цітана" з лікам 3:2 у овертайме, а на наступны дзень перамаглі расіяне — 3:1.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



**23**
верасня

**АЎТОРАК**
Усх. 6.57 Зах. 19.05
Даўж. дня 12.08
Маладзік
26 верасня

85 гадоў з дня нараджэння А. Маўзона (сапр. А. І. Маўшэнзон) (1918—1977), беларускага драматурга



ЭКСКЛЮЗИВ

***Александр БОРТНИК:***

# «У нас на стадионе пасутся козы...»

*Белорусские спортсмены удачно выступили на проходившем недавно чемпионате мира по легкой атлетике. **Среди призеров — Наталья САФРОННИКОВА** и **Леонид ВЕРШИНИН**. Сами спортсмены уроженцы города Волковыска. **Александр БОРТНИК** — их первый тренер — дал интервью "Народной воле" на родине призеров.*

**— Александр Михайлович, как долго Вы тренировали Сафронникову и Вершинина?**

— Наташа пришла ко мне в мой первый год работы. Мы с ней вместе учились, вместе росли. Она часто ленилась, я ее фактически за руку приводил на тренировки. Многие не верили в ее спортивное будущее, а я всегда стоял на своем: "Она будет великой спортсменкой!" И, как видите, не прогадал! Я очень горжусь ее результатами. Что касается Лени, он у меня занимался не с первых дней своей спортивной карьеры, ко мне пришел от другого тренера. Проблема наших тренировок заключалась в том, что мы никак не могли определить виды, с которыми он мог бы выступать на соревнованиях. Совершенно случайно остановились на беге 400 метров и 300 метров с барьерами. И опять не прогадали!

**— Скажите, а Вы наблюдаете за выступлениями своих учеников? Болеете за них?**

— Конечно! Всегда. Только вот этот полуфинал проспал! Начал смотреть... звонок, шеф поздравляет: "Наташка в финале!". "Сейчас, — говорю, — буду смотреть". "Какое смотреть, уже пробежала!". Вот так бывает. А болею за них всей душой. Смотрел финал, даже слеза покатилась... Они тоже не забывают меня, звонят, приезжают в гости, приглашают к себе. Наташа сразу после соревнований позвонила, единственное, что я мог сказать: "Наташка, я люблю тебя еще больше!"

**— За высокие спортивные достижения спортсмены получают денежные премии. А тренер за выдающихся воспитанников получает вознаграждение?**

— Не могу сказать, что нет. Но за именитых воспитанников платят мизер. За прошлый месяц за Сафронникову и Вершинина я получил 14 тысяч 900 белорусских рублей. А они ведь первые номера в национальной сборной страны! Обидно, ведь этих денег не хватит даже, чтобы съездить к ним в гости *(Для справки: билет из Волковыска до Минска стоит от 9 тысяч рублей. — **О.М.**)*.

**— Обидно. Но Сафронникова и Вершинин не единственные выходцы из Волковыска, которые добились высоких спортивных результатов в мире. Как Вы оцениваете материальную базу городской ДЮСШ?**

— На нашем стадионе пасутся козы, гуси. Это говорит о многом... Состояние беговых дорожек как на том же стадионе, так и в манеже оставляет желать лучшего. При подготовке к соревнованиям самим тренерам приходится укладывать их пластами резины, каждая весит 50 кг. Эти вопросы я не раз поднимал на высшем уровне, но реакции никакой. Когда готовлю ребят к первенствам, предпочитаю бегать не на стадионе, а в лесу, а то и в Гродно их увожу.

**— Среди Ваших теперешних воспитанников есть будущие чемпионы?**

— Что-то прогнозировать трудно. Нынешняя молодежь хочет все и сразу, по принципу "вынь да положь!". Были у меня ребята и получше, чем Сафронникова и Вершинин, а пробились только они. Но в удачу нужно верить всегда.

*Вот так. Пока в столице вовсю ведутся работы по строительству спорткомплексов и ледовых дворцов, на периферии нет возможности возобновить полноценные занятия в обычной спортивной школе, которая тем не менее уже подарила миру спорта громкие имена. Получается, спорт в Беларуси скоро приобретет статус столичного?..*

**Ольга МАЙ.**

## На сустрэчу з мастаком

Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны ладзіць **23 верасня 2003 года адкрыццё выставы** карцін беларускага мастака з Мінска **Лявона ГРЫШУКА.** У экспазіцыі адлюстравана тэма духоўных пошукаў чалавека, яго памкненне да ісціны, да святла.

Лявон Грышук удзельнічаў у шматлікіх выставах, у тым ліку і за мяжой. Яго карціны знаходзяцца ў многіх прыватных калекцыях.

Удзельнікі ўрачыстасці змогуць прысутнічаць на пасяджэнні "круглага" стала **"Хрысціянскія асновы здаровай сям'і".**

**Пачатак а 17-й гадзіне.** Уваход вольны. Чакаем вас па адрасе: **Мінск, вул.Рэвалюцыйная, 15, другі паверх.** Тэлефоны для даведак: **220-93-50, 206-57-97.**

## «Тэрыторыя свабоды»

25 верасня ў Доме літаратара (Мінск, вул.Фрунзе, 5) адбудзецца юбілейны творчы вечар вядомага пісьменніка **Уладзіміра АРЛОВА** пад назвай **"Тэрыторыя свабоды"**. Пісьменнік, які нядаўна адзначыў сваё 50-годдзе, азірнецца на пражытыя гады і выдадзеныя кнігі, а таксама прэзентуе зборнікі прозы "Ордэн Белай мышы" і "Адкрусі галаву вароне", якія яшчэ пахнуць друкарскай фарбай.

Удзел у вечары бяруць пісьменнікі Алесь Пашкевіч, Лявон Баршчэўскі, Адам Глобус і іншыя. Свае песні і гістарычныя балады спявае беларускі бард Зміцер Бартосік.

Уваход вольны.

Пачатак у 18.30.

ТЕЛЕВИЗОР

# БТ покажет «Мою страну»

*Сегодня Первый национальный канал запускает новый телепроект*

Идея передачи не нова. Неизвестные молодые люди с улицы приходят на кастинг на ТВ. Из огромного числа претендентов худсовет выбирает шесть юношей и шесть девушек. Созданные пары в дальнейшем будут вести борьбу за главную роль в сериале, съемки которого БТ планирует начать в следующем сезоне. Телезрителям в проекте тоже отводится важная роль — именно они путем голосования будут решать, какая пара должна покинуть проект. Нам покажут все: как подбираются актеры, как создаются сценарии, как монтируются серии, что происходит за камерой... Одним словом, гибрид российских передач "Фабрика звезд" и "Народный артист". Руководитель проекта, главный режиссер студии "ОКО" **Иван Пинигин** признается: "Что-то новое изобрести сложно. "Моя страна" — это не свое, но и не украденное. Мы надеемся, что проект телезрителям понравится".

Надо сказать, что снято шоу профессионально, легко и динамично. Продолжительность одной серии 15 минут. На протяжении дня ее будут показывать трижды: утром, днем и поздно вечером. Это сделано для того, чтобы проект смогли посмотреть как можно больше телезрителей.

Уже сегодня мы увидим несколько историй, предложенных обычными людьми, одна из которых должна лечь в основу будущего сериала. Приоткрою тайну: это будет забавная история знакомства минчанина Иосифа Яцевича со своей будущей женой. В четверг худсовет проведет кастинг и выберет 12 претендентов на главные роли в сериале. В пятницу начнется самое интересное: разыграется первый эпизод, и в числе претендентов останется уже пять пар. Иван Пинигин говорит, что все будет по-честному. Из борьбы выйдет та пара, за которую проголосуют телезрители. Хотя он честно признается, что некоторые симпатии у худсовета уже есть. К слову, в его состав вошли известные на БТ люди. Телеведущие **Светлана Боровская** и **Сергей Кухто,** КВНщик **Андрей Дерьков,** актриса **Елена Внукова,** бывший руководитель пресс-службы БТ, второй секретарь ЦК БРСМ **Игорь Бузовский.**

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**На фото снизу:** *работает жюри; идут съемки.*

## Вторник, 23 сентября

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!" Информационно-музыкальная программа.
**08.45** Моя страна.
**09.05** Интеллектуальная комедия "Адаптация" (США).
**11.05, 18.05 "Что сказал покойник?"** Сериал (Россия-Польша).
**12.10** Зона Икс.
**12.25** Комедия **"Налево от лифта"** (Франция).
**14.05** Моя страна.
**14.15** "Все нормально, мама!" Развлекательная программа.
**15.10** "Маски-шоу".
**15.30** Молодежный юмористический сериал **"Оборотень в школьном городке".** (Канада). 1-я серия.
**16.05** "5х5". Программа для молодежи.
**16.45** Моя страна.
**17.05 "Пси-фактор".** Научно-фантастический сериал (США-Канада).
**19.05** Комедия **"Каролина"** (США-Германия).
**20.50** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.40** Блокбастер **"Судья Дредд"** (США).
**23.20** Моя страна.
**23.35** Клип-обойма.
**23.50** Футбол. Чемпионат Италии. Видеообзор тура.

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.15** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50, 22.10** Сериал **"Две судьбы".** (Россия, 2002 год).
**10.45** Следствие ведет Колобков.
**15.00** "Город женщин". Телевизионное шоу.
**15.45** "Фабрика звезд- 3".
**16.10** Сериал **"Берег мечты".** 17-я серия.
**17.00** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.15** "Новый день". "Русская Италия".
**18.40** Константин Райкин в программе "Сати".
**19.10** "Земля любви, земля надежды". Сериал.141-я серия.
**20.00** Время.
**21.05** Многосерийный фильм **"Убойная сила: Способный ученик".** (Россия, 2001 год).
**23.30** "Не только о футболе". Спортивное обозрение.
**23.50** Детектив **"Убийство на Монастырских прудах".** 2-я серия. (СССР, 1990 год).
**00.45** "На футболе" с Виктором Гусевым.



### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **"Каменская-2. За все надо платить".**
**08.50** "Не скуЧАЙ!" с Михаилом Евдокимовым.
**09.50, 23.15** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Телесериал (Австрия - Германия).
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**21.00** Детектив **"Марш Турецкого. Новое назначение". "Кровавый отпуск".** 2-я серия.
**22.00** Вести+.
**22.20** Раскрыть и доказать.
**23.30** Народный артист.

### КУЛЬТУРА

**15.05** "Плоды просвещения". "Беседы о русской культуре". Авторская программа Ю.Лотмана. Передача 17-я.
**15.45** "Как создать человека". Документальный сериал (Великобритания, 2002). 2-я серия.
**16.45** "Коминтерн". Документальный сериал. Режиссер В.Беляков. Фильм 1-й. "Даешь мировую революцию".
**17.30** Новости культуры.
**17.45** "К Франкфуртской книжной ярмарке". Вера Павлова.
**17.55** "Торжество совершенной красоты". Марина Семенова.
**18.35** "Тайны русского оружия". "Корабли Армагеддона". Часть 2-я.
**19.00** "Приключения Стремянки и Макаронины". Мультфильм.
**19.15** Отечественная мелодрама 70-х. **"Объяснение в любви".** Художественный фильм ("Ленфильм", 1977). Режиссер И.Авербах.
**21.25** Ток-шоу "Оркестровая яма". Ведущий А.Варгафтик.
**22.10** "Как создать человека". Документальный сериал (Великобритания, 2002). 2-я серия.
**23.00** Новости культуры с Владиславом Флярковским.
**23.25** "Ночной полет". Ведущий Андрей Максимов
**23.50** Программа передач.

### НТВ

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** "Намедни" с Леонидом Парфеновым.
**11.00, 16.00** "Сегодня" с Ольгой Беловой.
**14.35** "Мой ребенок - наркоман". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Супершпионки"** (США).
**17.25** Территория выживания.
**18.00** "Сегодня" с Михаилом Осокиным.
**18.35** Премьера. Сериал **"Улицы разбитых фонарей-IV: Выстрел в спину".**
**19.45** Остросюжетный сериал **"Черный ворон".** 10-я серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.35** Красная стрела.
**22.00** Сериал **"Клан Сопрано".** 41-я серия (США).

### СТВ+RenTV

**06.25, 15.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.50** "Гаджет и Гаджетины". Мультипликационный сериал.
**07.15** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.30, 13.30, 16.00, 19.30, 22.35** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт". Телеальманах.
**08.10** "Технология".
**08.20** Боевик **"Живая бомба".** (США, 1995 г.).
**10.05** "Столичный футбол с Сергеем Ковальчуком". Спортивная программа.
**10.30** "Тайна черных летательных аппаратов". Документальный фильм.
**10.55** "Пока горит свеча...".
**11.25** "Дикая планета": "Удивительные животные". Документальный фильм.
**12.00 "Истинная любовь".** Теленовелла.
**12.55** "Очевидец" с Иваном Усачевым.
**13.55, 18.35 "Крутой Уокер".** Телесериал.
**15.00** "Супершоу братьев Марио". Мультипликационный сериал.
**16.20** Мелодрам **"Прощение".** (Россия, 1992 г.).
**17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Здравствуйте, доктор!".
**18.20** "Минск и минчане".
**18.25** "Тема дня".
**19.55** "СТВ-спорт".
**20.05** "Добро пожаловаться...".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.30** "Закон и криминал".
**20.50** Криминальная драма **"Звериная зона".** (США, 2000 г.).
**22.55** "Технология".
**23.05** "Новости СНГ".
**23.25** Триллер **"Шальная баба".** (Россия, 1991 г.).

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мульт-парад" от "Бюргера".
**17.55** Телемагазин.
**18.00** Художественный фильм **"Племянник".**
**19.50** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
**20.00** Сериал **"Таинственный мир Рут Рендел".**
**20.40** Телемагазин.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Программа "Крестьянские ведомости".
**21.30** Мелодрама **"Тайное свидание".**

### ТВ ЦЕНТР

**04.45** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55** Детектив **"Карман полный ржи"** (Великобритания).
**09.40** Фантазии "Вемины".
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.10** "Момент истины". Авторская программа А.Караулова.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Детективный сериал (Германия).
**14.20** Как добиться успеха. Доктор Богданов.
**14.30** Все о здоровье в программе "21 кабинет".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Цыганская любовь".** Телесериал (Мексика).
**17.15** Очевидное - невероятное.
**17.55 "Загадочная женщина".** Телесериал (Венесуэла).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**20.00 "Приключения Шерлока Холмса".** Телесериал (Великобритания).
**21.40** Секретные материалы: расследование ТВЦ.
**22.20** Времечко.
**22.50** Петровка, 38.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Серебряный диск.
**23.50** Спорт-экстрим.
**00.10 "Вспомнить всё".** Телесериал (США).
**00.50** - 01.35 "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** Еврогoлы. Футбольный журнал. Повтор.
**11.00** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. Польша-Болгария. Турция. Повтор.
**12.30** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. Италия-Украина. Турция.
**14.00** Еврогoлы. Футбольный журнал. Повтор.
**15.30** Велоспорт. Тур Испании. 16-й этап. Прямая трансляция.
**18.45** Теннис. WTA. Лейпциг. Прямая трансляция.
**21.30** Бокс. Повтор.
**22.00** Бокс. Тяжеловесы. Рено.
**00.00** "Олимпийские игры". Журнал.
**01.15** Триал. Испания.
**01.45** Водомоторный спорт. Италия.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

**Рэдактар нумара Марына КОКТЫШ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 29 270 экз. Заказ № 802.